СУСТРЭЧЫ І ЗНАЁМСТВЫ Ў САМАДЗЕЙНЫМ ТЭАТРЫ

# КАЛІ ВЫ ЛЮБІЦЕ ОПЕРУ



— ВЫ ЛЮБІЦЕ оперу?—спытаў у мяне ў першыя хвіліны знаёмства кіраўнік народнага獨 опернага тэатра, што ў Палацы культуры Белсаўпрофа, Мікалай Сярдобаў. І, не чакаючы адказу, працягваў страсна, перакананa:—Оперу нельга не любіць! Гэта высокае мастацтва. Наогул свята душы для кожнага культурнага чалавека. Гэта радасць майго жыцця.

Немалады яго твар пры гэтым ажыў, стаў узнёслым, вочы заблішчэлі. Мой 80-гадовы субяседнік, праяўляючы здзіўляючую ў яго ўзросце жвавасць, хуценька падымаўся па прыступках, мабыць, пераўвасобіўшыся на імгненне ў аднаго са сваіх сцэнічных герояў... А яму за доўгае жыццё давялося стварыць вобраз Кастуся Каліноўскага ў аднайменнай оперы Д. Лукаса, Мацея ў оперы С. Манюшкі «Страшны двор», Давыдава ў оперы А. Багатырова «Надзея Дурава», фон Шолена ў «Алесі» Я. Цікоцкага і многія-многія вобразы ў класічным рэпертуары.

А потым Мікалай Мікалаевіч аднекуль з глыбіні шафы беражліва дастаў два вялікія альбомы. У іх уся гісторыя тэатра, створанага ім 26 гадоў назад. Тады ён, увенчаны лаўрамі народны артыст БССР, адзначыўшы сваё 55-годдзе, пайшоў з Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета на заслужаны адпачынак. Але ж без справы доўга не вытрымаў. Вырашыў арганізаваць у Палацы культуры Белсаўпрофа оперны калектыў. Для першых пастановак узяў аднаактовыя оперы С. Рахманінава «Алека» і А. Туранкова «Купальская ноч». Поспех першых спектакляў акрыліў студыйцаў. І яны ўзяліся за «Рыгалета» Д. Вердзі, потым паказалі гледачам «Цар-цясляр» Г. Лортцінга, «Плашч» і «Джані Скікі» Д. Пучыні, «Таемную жаніцьбу» Д. Чымарозы і іншыя.

Перагортваючы старонкі альбома з фотаздымкамі, як даўно мінулыя і дарагія для ўспамінаў гады, Мікалай Мікалаевіч расказваў пра тых, з кім ён пачынаў, пра кожнага з самадзейных спевакоў памятаў нешта галоўнае, важнае, што адразу характарызавала яго як асобу.

— Барыс Палякоў, па спецыяльнасці інжынер, 26 гадоў у тэатры. Голас у яго—ого! Такі артыст, як ён, быў бы гордасцю любога прафесійнага калектыву. Выканаў дзесяткі самых розных роляў, выступаў у Крамлёўскім Палацы. А сёлета ў лістападзе Барыс Аляксандравіч рыхтуе свой бенефіс.

Ірына Жуклевіч, былая наша «прыма». Таксама вельмі здольная. Але яе артыстычны лёс быў кароткі. Хатнія клопаты, малыя дзеці... Гэта ж няпроста—сумяшчаць сваю асноўную прафесію з рэпетыцыямі ў тэатры, з паездкамі і выступленнямі. На такое здольныя толькі людзі моцныя, бясконца адданыя свайму захапленню.

Але доўга гутарыць з Мікалаем Сярдобавым нам не давялося. Надышоў час рэпетыцыі, усе члены трупы былі ўжо ў зборы. У суседнім пакоі адны паўтаралі свае партыі з канцэртмайстрам, другія рыхтавалі сцэну, расстаўлялі дэкарацыі для «Травіяты». Дарэчы, гэту оперу тэатр ставіць не ўпершыню. Яшчэ ў 60-х гадах славуты твор Д. Вердзі са складанай музычнай драматургіяй смела ўзяла ў свой рэпертуар тады мала каму вядомая самадзейная оперная студыя. Але цяпер у «Травіяце» амаль цалкам абноўлены састаў выканаўцаў.

...Сёння рэпетыцыя без касцюмаў. У ролі Віялеты—Наталля Губарэвіч, Жэрмона—Барыс Палякоў, служанкі—Ала Герасімёнак.

Здаецца, гэта так проста—выйсці і праспяваць сваю партыю. Але вось не атрымліваецца ў Алы Герасімёнак. Яна, праўда, яшчэ навічок на сцэне, хвалюецца, не можа ўвайсці ў вобраз.

Я заўважыла, як нервуецца побач М. Сярдобаў. Нарэшце ён не можа ўседзець на месцы. Падхопліваецца. І, апынуўшыся на сцэне, стары артыст пачынае паказваць, як павінна рухацца служанка... Ён заўсёды такі, іх рэжысёр, і ўзрост яго не змяніў,—па-ранейшаму эмацыянальны, рэзкаваты ў жэстах і меркаваннях, патрабавальны і часам нават суровы. Аднак у многім дзякуючы яго таленту, чалавечай упартасці і настойлівасці, іх маленькая студыя вырасла ў сапраўдны тэатр, дзе ёсць свае традыцыі, ёсць будучыня.

Музыка. Дуэт Віялеты і Жэрмона. Барыс Палякоў—цудоўны партнёр, тонкі, інтэлігентны акцёр. Наташа Губарэвіч, па словах Мікалая Сярдобава, сёння трохі пераігрывае, настолькі захапілася, увайшла ў ролю.

Сёння на рэпетыцыі я пазнаёмілася амаль з усімі ўдзельнікамі тэатра. Іх не так ужо і многа. Каля дваццаці чалавек. Ларыса Глазырына і Аляксандр Даньшын—выкладчыкі інстытута, Мікалай Валасевіч—тэхнік, Леанід Івашкоў—выкладчык кансерваторыі, Лідзія Жардзецкая—біёлаг, супрацоўнік інстытута, Людміла Сямёнава—студэнтка педінстытута, Наталля Губарэвіч—інжынер, Барыс Палякоў—інжынер, Аляксандр Радчанка—інжынер-лесавод... У кожнага з іх цікавая работа, сям'я, дзеці. Аднак ужо на працягу многіх гадоў тройчы на тыдзень яны прыходзяць сюды, у Палац культуры. Тут у іх адбываюцца штогадовыя святочныя канцэрты, у якіх яны паказваюць свае новыя пастаноўкі. Тут іх закідваюць кветкамі ўдзячныя гледачы. Што ж аб'ядноўвае ўсіх гэтых людзей у адзін калектыў?

— Бадай, адказ можа быць адназначны,—кажа Леанід Івашкоў, адзін са старэйшых удзельнікаў тэатра, цяпер загадчык кафедры ў Белдзяржкансерваторыі.—Святая любоў да спеваў, музыкі, наогул мастацтва.

У кожнага па-свойму склаўся лёс. А патрэба душы—ствараць прывяла іх сюды і аб'яднала. Зразумела, тут яны працуюць не за грошы. У тэатры кожны рэалізуе сябе як творчую асобу. А гэта ж сапраўднае шчасце!

Ну, скажам, што звязвае мяне, педагога кансерваторыі з самадзейным тэатрам? Я ім дапамагаю як прафесіянал—вяду ўрокі вакала. І разам з імі ўжо 24 гады спяваю ў спектаклях. Чым, між іншым, ганаруся. Бо аўтарытэт у народнага тэатра немалы. Да нас ідзе моладзь.

Сапраўды, у тэатры нямала маладых. Але М. Сярдобаў некаторых яшчэ не лічыць сваімі, называе трохі іранічна «залётачкамі». Ён мае на гэта падставы. Ведае, што далёка не кожны прырасце душой да тэатра. Як правіла, да іх штогод прыходзяць дзесяткі навічкоў, а застаюцца адзінкі.

Наташа Губарэвіч якраз з тых, хто ўжо не ўяўляе свайго жыцця без гэтага калектыву. Хаця тут не так даўно—тры гады. Іх строгі рэжысёр, даволі скупы на пахвалы, як мне здаецца, выдзяляе сярод іншых менавіта Наташу, ускладвае на яе свае надзеі. У дзяўчыны лірычнае сапрана, вялікі, як кажа Сярдобаў, голас. Даручае ёй вядучыя партыі ў пастаноўках.

— Няхай гэта банальна гучыць,—прызнаецца Наташа,—але тут, у самадзейным тэатры, я знайшла сябе. Гадзіны рэпетыцый і выступленняў—лепшыя гадзіны майго жыцця, гадзіны ўзлёту духу.

Наташа Губарэвіч працуе ў інстытуце меліярацыі. Яшчэ ў час вучобы ў політэхнічным інстытуце яе здольнасці да спеваў заўважылі сябры і педагогі. І параілі перамяніць спецыяльнасць. Дзяўчына некалькі гадоў займалася ў вакальнай студыі, рыхтавалася нават да паступлення ў кансерваторыю. Але...

— Але шчаслівы лёс прывёў мяне ў самадзейны тэатр,—працягвае Наташа.—Тут я сустрэла таленавітых людзей, адчула радасць зносін з аднадумцамі.

Даволі позна, а дзесятай вечара, заканчваецца рэпетыцыя ў народным оперным тэатры. Апошнім пакой пакідае Мікалай Сярдобаў. Стары артыст асцярожна спускаецца па доўгай лесвіцы Палаца культуры... Усё ж такі 80 гадоў—гэта ўзрост! Яму ёсць чым ганарыцца. Любімае дзецішча—створаная некалі студыя—вырасла ў папулярны народны оперны тэатр. Дзе толькі не пабывалі яны са сваімі пастаноўкамі: выступалі на сталічнай сцэне і ў вясковым клубе, перад воінамі і перад вучонымі. Для некаторых удзельнікаў трупы захапленне операй, спевамі перарасло ў прафесію. Напрыклад, Д. Марозаў і В. Садоўская—цяпер салісты Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР. Стаўшы прафесійнымі спевакамі, яны ўсё ж не забываюць сваю студыю. А на 80-годдзе рэжысёра сабраліся нават тыя, хто жыве зараз у іншых гарадах... Вось гэта была сустрэча, вось гэта радасць!

Аднак на змену святам прыходзяць будні, а гэта зноў бясконцыя турботы і хваляванні. Хутка здача спектакля «Надзея Святлова», прыедуць здымаць з тэлебачання, зноў жа бенефіс Барыса Палякова. А к вясне мяркуюць паставіць камічную оперу «Аптэкар» на музыку Гайдна.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: рэжысёр народнага опернага тэатра Палаца культуры Белсаўпрофа М. СЯРДОБАЎ (у цэнтры) з удзельнікамі трупы А. ДАНЬШЫНЫМ, Л. ГЛАЗЫРЫНАЙ, І. ЖУКЛЕВІЧ, Л. ВЯЧЭРСКАЙ, З. ШВАРЦМАНАМ, А. РАДЧАНКАМ.**

# Андрэй БЕМБЕЛЬ

**Беларускае савецкае мастацтва панесла цяжкую страту. 13 кастрычніка 1986 года памёр народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР, вядомы скульптар і педагог, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Андрэй Бембель.**

**У некралогу, падпісаным членамі ўрада рэспублікі, вядомымі дзеячамі мастацтва, гаворыцца:**

**А. Бембель нарадзіўся 30 кастрычніка 1905 года ў горадзе Веліжы Смаленскай вобласці. Спецыяльную адукацыю атрымаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме і Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР.**

**А. Бембель — адзін са старэйшых майстроў беларускага выяўленчага мастацтва. Яго творчасць непарыўна звязана з сацыялістычным будаўніцтвам, станаўленнем і развіццём культуры рэспублікі. Створаныя ім манументальныя творы адлюстроўваюць веліч гераічных перамог савецкага народа, багаты духоўны свет нашага сучасніка. На ўсіх этапах творчага шляху мастак звяртаўся да вобраза У. І. Леніна. Ён стваральнік шэрагу помнікаў Леніну, а таксама партрэтаў (барэльефаў), бюстаў Ільіча. Як аднаму з аўтараў помніка «Курган Славы», пабудаванага ў гонар Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі, яму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. Ён удзельнічаў у стварэнні мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой».**

**Многа сіл А. Бембель аддаў педагагічнай дзейнасці, выхаваў не адно пакаленне мастакоў. Прайшоў шлях ад выкладчыка да загадчыка кафедры, прафесара Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Педагагічны талент, метадычнае майстэрства, шырыня эрудыцыі дазвалялі яму паспяхова фарміраваць у маладых мастакоў неабходныя прафесіянальныя якасці, высокую грамадзянскасць, актыўную жыццёвую пазіцыю.**

**Разам з творчай і педагагічнай работай Андрэй Бембель вёў актыўную грамадскую дзейнасць. Ён выбіраўся членам ЦК КП Беларусі, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй праўлення Саюза мастакоў рэспублікі, членам праўлення і сакратаром праўлення Саюза мастакоў СССР.**

**Светлая памяць аб выдатным чалавеку, вялікім мастаку, камуністу Андрэі Бембелі назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.**

# ДНІ БЕЛАРУСІ Ў СЛАВЕНІІ

У Любляне і Марыборы, Новай Горыцы і Ціова Велянье, іншых гарадах Славеніі праходзілі Дні культуры нашай рэспублікі.

...Трохмосце — утульны, любімы люблянцамі і прыезджымі куток сталіцы Славеніі. Тут ля будынка гарадской ратушы ў тую раніцу было як ніколі многа людзей — іх прывабілі вясёлыя гукі, незвычайнасць інструментаў і незнаёмыя меладычныя песні. Перад уваходам у карцінную галерэю хлопцы і дзяўчаты ў беларускіх нацыянальных касцюмах з запалам танцавалі, звонкія галасы выводзілі «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў...». Гэта артысты Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР наладзілі канцэрт для гасцей, што прыйшлі на вернісаж «Беларускія жывапіс, графіка і народныя мастацкія промыслы».

Праз некалькі гадзін пасля адкрыцця выстаўкі дырэктар галерэі Бажэна Плеўнік прызналася:

— Такога наплыву гасцей мы не чакалі. Сёння да нас прыйшлі не толькі спецыялісты, але і вельмі многа людзей, далёкіх ад мастацтва. Прыемна адзначыць, што і ў тых і ў іншых меркаванне аднолькавае: жывапіс і графіка Беларусі вызначаюцца беражлівымі адносінамі да народных традыцый і актыўным пошукам сучасных выяўленчых сродкаў.

У Доме імя Івана Цанкара адкрылася выстаўка кніг беларускіх выдавецтваў. Славенскія паліграфісты падрыхтавалі сюрпрыз для яе арганізатараў і членаў беларускай афіцыйнай дэлегацыі. Яны паднеслі ім яшчэ з пахам друкарскай фарбы цудоўна афармленую кнігу «Янка Купала» на беларускай, славенскай, рускай і англійскай мовах.

Дырэктар упраўлення па культурнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву СФРЮ з замежнымі краінамі Влада Стаменавіч сказаў:

— У нас ужо ёсць вопыт правядзення падобных святаў культуры. Значэнне іх для збліжэння народаў, умацавання дружбы і супрацоўніцтва цяжка перааценіць. Дні беларускай культуры падарылі нам сустрэчы з цудоўнымі калектывамі і выканаўцамі.





# III. МАЛАРЫЦКАЯ ВОСЕНЬ

Восень — гэта яшчэ і пара вяселляў. Распытайце бацькоў, у які час ішлі яны пад вянец. Даўней наогул гэта была непарушная традыцыя: гуляць вяселле, калі і ў двары, і ў полі завершаны ўсе работы. І хаця сённяшняя моладзь гэтым не дужа кіруецца, тым не менш, як сведчыць статыстыка, найбольш шлюбаў заключаецца якраз увосень.

Вось і гэтыя маладыя людзі выбралі для свайго свята залатую пару года. Іх вясельную працэсію я сустрэў на станцыі Закруцін Маларыцкага раёна. Потым распытаў у людзей пра маладых. Жаніха завуць Віктар, нявесту — Валянціна. Думаецца, гэты фотаздымак у газеце будзе для іх прыемным падарункам.

З Міхаілам Косікам таксама пазнаёміў выпадак. Спачатку я пабачыў яго работы, а потым знайшоў і майстра. У вёсцы Збураж, дзе жыве Косік, ніхто лепш за яго не спляце такі вось кош. Работа гэта працаёмкая, не гадзіну і не дзве трэба патраціць, а дні тры ідзе на выраб адной кашолкі. Сотні іх сплёў за сваё жыццё майстар. Не толькі ў Збуражы, а [illegible] іншых вёсках Маларыт[illegible] можна сустрэць яго кашы — вельмі зручная рэч для грыбніка ці ягадніка, ды й яшчэ шмат для чаго прыдатная...

Зараз на маларыцкай зямлі ўжо позняя восень. Пярэстым дыван[illegible] палай лістоты ўсланы [illegible]. Адлятаюць у вырай птушкі. І толькі гэтыя лебедзі чамусьці не спяшаюцца пакідаць радзімы край, відаць, хочацца яшчэ дзень-другі пабыць дома, адцягнуць час расстання...

**НА ЗДЫМКАХ: вяселле ў Закруціне; лебедзі не спяшаюцца пакідаць маларыцкі край; майстар з вёскі Збураж Міхаіл КОСІК.**



# «ЖАНЧЫНА ЗДОЛЬНАЯ І ПРАЦАЛЮБІВАЯ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

З 1880 года сляды Васільевых у Мазырскім павеце губляюцца. Яны пераязджаюць у Бабруйск. Тады ж нарадзіўся сын Жэня, які з 1899 па 1900 год працаваў фельчарам у Тураўскім пункце. З яго «Справы» бачна, што на ўтрыманні Яўгена Мікалаевіча знаходзяцца малодшы брат і хворая маці-ўдава, якія не пражываюць разам з ім. Магчыма, імя другога сына — Барыс. Архіўныя звесткі сведчаць, што Барыс Мікалаевіч у 1910 годзе скончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта і працаваў у Ігуменскім павеце.

Знаходзячыся ў Бабруйску, А. Васільева з'яўлялася карэспандэнтам «Виленского вестника».

У Ленінградскім аддзяленні Архіва АН БССР у фондзе вядомага збіральніка і выдаўца фальклору П. Шэйна мы знайшлі два пісьмы і два невялікія сшыткі А. Васільевай. У лісце ад 7 верасня 1878 года Анастасія Васільева, выконваючы абавязкі грабаўскага валаснога пісара, паведамляла:

«Міласцівы гасудар!

Гады чатыры таму назад я, прыехаўшы ў вёску, з вялікай цікаўнасцю прыглядвалася да жыцця сялян, заўважала іх абрады, услухвалася ў іх песні і нават неаднойчы наведвала вяселлі і іншыя святкаванні і ўсё бачанае і пачутае запісвала, ад чаго ў мяне ўтварылася некалькі сшыткаў.

...Я з задавальненнем прапаную Вам сшытак з песнямі, і калі Вам будзе патрэбна, у наступных пісьмах прышлю апісанне розных абрадаў і шмат іншых песень, таксама легенд і павер'яў...»

У наступны раз, 13 сакавіка 1879 года, А. Васільева прыслала яшчэ меншы сшытак і вытлумачыла гэта тым, што была занята падрыхтоўкай фальклорнага матэрыялу для Маскоўскай антрапалагічнай выстаўкі. Абяцала выслаць яшчэ.

Першы нарыс А. Васільевай «Вясельныя абрады ў раёне Грабаўскай воласці Мазырскага павету» быў надрукаваны ў 1877 годзе, магчыма, адразу пасля ўласнага вяселля аўтаркі з 38-гадовым Мікалаем Васільевым, прозвішча якога яна затым узяла сабе. У нарысе змешчана 15 вясельных песень, апісаны рэдкія, заўважаныя пільным вокам фальклярыста абрады, напрыклад, выкрасання дружкай агню з крэменю.

Пра знахарства і забабоны А. Васільева піша ў нарысах «Легенды і павер'і ў Мінскай губерні», «Заметка, як праводзяць вясну сяляне Мінскай губерні», «Знахары». Яна не толькі канстатуе факты падману цёмнага люду, але і выступае ў друку, паўсядзённым жыцці з выкрыццём яго. Неабходна быць моцнай і мужнай жанчынай, каб у той час у глушы Палесся прасіць у знахароў «навесці якое-небудзь насланнё» на сябе, каб затым на прыкладзе даказаць бясшкоднасць загавораў. Даследчыца лічыць, што забабоны і вера ў нячыстую сілу сярод сялян знікнуць, калі ў самыя цёмныя куткі пранікне асвета.

У нарысе «Легенды і павер'і Мінскай губерні» аўтар апавядае пра веру народа ў ператварэнні чалавека ў жывёл.

Тут яна не ставіцца асабліва прыхільна да народа, але дае іншы раз рэальныя і дакладныя яго характарыстыкі. Яна з удзячнасцю адносіцца да носьбіта і стваральніка вуснапаэтычнай творчасці. Захапляецца майстэрствам простага люду: «Паміж сялян ёсць і гумарысты, якія самі не смяюцца, могуць рассмяшыць удосталь тых, хто іх акружае, ёсць майстры на мудрагелістыя загадкі, досціпы і г. д.» У артыкуле «Вытрымкі з жыцця беларускай жанчыны» аўтар абараняе сялянку-працаўніцу. Шукае падыход да душы селяніна, каб ён змог «раскрыцца», даў патрэбны матэрыял фальклярысту-даследчыку, этнографу. Нарэшце, А. Васільева жадае дабра яму, у маладым пакаленні бачыць надзею будучыні. Далейшае паляпшэнне жыцця бачыць у неабходнасці навучання грамаце сялян, шырокай асвеце народа. А каб палепшыць становішча сялянкі, на яе думку, патрэбна даць ёй раўнапраўе з мужчынам.

Дзейнасць Анастасіі Васільевай займае пачэснае месца сярод мясцовых збіральнікаў і даследчыкаў фальклору XIX стагоддзя. Збіральніца звяртала ўвагу не толькі на тое, калі і пры якіх абставінах выконваліся тыя ці іншыя народныя творы, але і ўказвала, у асноўным, адрас запісу, на што нярэдка не звярталі ўвагі і больш вядомыя даследчыкі. Яе фальклорна-даследчыцкую дзейнасць можна параўнаць з дзейнасцю Э. Яленскай-Дмахоўскай, якая таксама пісала пра Петрыкаўшчыну, але погляды Васільевай былі больш прагрэсіўнымі, чым яе зямлячкі-памешчыцы.

**Алесь ЛОЗКА,**
**аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

## З ДАЛЁКІХ ПАДАРОЖЖАЎ

Народны духавы аркестр Слуцкага гарадскога Дома культуры вярнуўся з сямідзённай паездкі ў Польскую Народную Рэспубліку. Калектыў удзельнічаў ва ўсепольскім фестывалі духавых аркестраў, які праходзіў у горадзе Седльцэ.

Слуцкія музыканты выступалі ў заключным канцэрце і адзначаны дыпломам і памятным прызам.

Пасля закрыцця фестывалю аркестр зрабіў гастрольную паездку па гарадах і вёсках ПНР.

## ПА П'ЕСЕ ВЯЛІКАГА ДРАМАТУРГА

Чарговы сезон Маскоўскі тэатр аперэты адкрыў прэм'ерай музычнай камедыі «Мільянерша», створанай беларускім кампазітарам, народным артыстам СССР Я. Глебавым па п'есе Б. Шоў, лібрэта В. Івановай.

Аўтары стварылі яркі музычны спектакль аб жанчыне, якая ў неспрыяльных для сябе ўмовах перамагла ў барацьбе за шчасце. Цудоўная пастаноўка масквічоў, музыка Я. Глебава дастойныя памяці Б. Шоў, 130-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета.

## ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ ЗА ПЕСНІ

Гэтых жанчын з вёскі Ананчыцы Салігорскага раёна ведаюць далёка за межамі Беларусі. Да іх часта прыязджаюць фальклорныя экспедыцыі, іх спевы вывучаюць музыказнаўцы. Удзельніцы фальклорна - этнаграфічнага хору не раз выступалі па саюзнаму і рэспубліканскаму тэлебачанню, іх спевы запісаны на грампласцінкі Усесаюзнай фірмы грамзапісу «Мелодия», яны з'яўляюцца лаўрэатамі многіх творчых аглядаў. Нядаўна ганаровы спіс узнагарод калектыву папоўніўся яшчэ адной—залатым медалём Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці.

Павіншаваць удзельніц хору з залатым медалём з'ехаліся ў Ананчыцы фальклорныя ансамблі з навакольных вёсак. Віншаванне калектыву вылілася ў сапраўднае свята народнай творчасці.



**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга ЦК КП Беларусі.
Зак. 1590